Przesyłka opłacona gotówką 40%.

Цана асобнага нумару 15 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 10 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская 8—8. | Вільня, 10-га лістапада 1933 | Выходзіць два разы ў месяц. | Год I.

Цана абвестак паводле умовы. | Прыймо інтарэсантаў ў рэдакцыі штодзень ад 9-й да 4-й гадзіны. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр. у 3 » —70 » | у ½ года—1.30 у 1 год —2.50

## Гітлер—Эўропа—мы.

Калі прагрымелі крокі дыпляматычных штурмавікоў нямецкага фашызму, дэманстрацыйна пакідаючых Лігу Нацый і канфэрэнцыю па „разбраеньні“,—наш узрок быў накіраваны на асмаленыя пажарам сьцены Рэйхстагу, дзе разыгрывацца апошні акт найвялікшае ў гісторыі правакацыі, дзе падпальшчыкі *пасадзілі на лаву падсудных работніцкую клясу*. У нашай думцы два гэтыя факты — бэрлінскі суд і жэнэўскі крок Гітлера—вязаліся *ў адно неразлучнае цэлае*.

Далейшы ход падзеяў нашу ацэнку пацьвердзіў. Гітлер з жэнэўскім барабанным боем перайшоў на ўнутры-нямецкі фронт: абвешчаны новыя выбары ў Рэйхстаг пад лёзунгам „салідарнасьці народу з крокам ураду“. Гітлер паракананы, што „галасаваньне народу *бязумоўна* пацьвердзіць пастановы ўраду“! Гэтую „пэўнасьць“ штурмовыя этрады гітлерызму падмацоўваюць чынам. Цяпер ужо „перадвыбарная акцыя“ у разгары: трашчаць косьці непакорных работнікаў, папаўняюцца новымі „насельнікамі“ канцэнтрацыйныя лягеры. На „галасаваньне“ выстаўлены толькі *адзін нацыянал-сацыялістычны сьпісак*. Словам поўны росквіт „дэмакратыі“, ці як кажа Гітлер—„нацыянальнай, старанямецкай дэмакратыі“.

Але мы тут хочам падкрэсьліць другі, ня менш істотны, бок справы, а іменна тое, што Адольф Гітлер высунуў на „галасаваньне“ *толькі* сваю *замежную* палітыку, ці, дакладней кажучы, *толькі свой жэнэўскі авантурны крок*. Прыняўшы пад увагу, што гэта робіцца на *дзесятым* месяцы панаваньня, вывады напрашваюцца самы сабой: Гітлер у галіне ўнутранай палітыкі *ня мае* чым пахваліцца перад народнымі масамі; лёзунгі, якімі „прыгожы Адольф“ калісьці раскідаўся направа і налева, аказаліся самым звычайным *ашуканствам*.

Гітлер крызісу ня спыніў, а яшчэ больш паглыбіў сваёй авантурнай палітыкай; безрабоцьце ня толькі не зьліквідавана, але няўпынна расьце і яшчэ больш завастрылася тым, што частку безработных фашызм, закоўваючы ў ланцугі паўвайсковай дысцыпліны, загнаў на галоднае існаваньне ў катаржных „батальёны працы“; цэны на прадукты першай патрэбы растуць, а заробкі падаюць; замест абяцанай „народнай волі“ запанаваў нявыносны тэрор, акружаючы краіну калючым дротам канцэнтрацыйных лягераў, куды загнана 170.000 чалавек і куды зможа папасьці кожны, хто толькі адважыцца прыпомніць ранейшыя абяцанкі Адольфа Гітлера.

Як бачым, хваліцца *сапраўды няма чым*. Да таго-ж закляты вораг фашызму — нямецкая работніцкая кляса — зацята трымаецца на сваіх пазыцыях барацьбы. А *за* работніцкай клясай готовы кранцуця мяшчанскія масы, якія сьлепа хлынулі за Гітлерам і якія *таксама хутка* могуць—разачараваныя—ад яго адыйсьці.

І тут, побач з разьюшаным тэрорам, сымбалем якога зьяўляецца лейпцыгска-бэрлінскі працэс, павінна прыйсьці на выручку распаленая да апошніх граніц нацыяналістычная дэмагогія вакол „жэнэўскага кроку“. У гэтай дэмагогіі гітлерызм хоча ўтапіць незадаваленьне галодных мас,гэтай дэмагогіяй хоча ён атруціць іх пачуцьці і пагнаць на вайну, на „ўсходні паход“, у якім бачыць выхад з крызісу.

Падрыхтоўка да гэтага паходу ідзе хуткім тэмпам. Гарматы, танкі, самалёты — ўсьцяж і масава папаўняюць рады рэйхсвэры (арміі). Вытвараецца страшэнныя атрутныя газы. *Фашыстоўская Нямеччына фактычна даўно дазброілася і „жэнэўскі крок“ ёсьць дамаганьнем легалізацыі таго, што існуе*. Хоць нямецкі фашызм нядвузначна паказвае *супроць каго* пакіруе сваю зброю, аднак, тварцы вэрсальскага трактату баяцца, што прызнанае права можа занадта асьмеліць Гітлера і што нямецкая зброя можа быць таксама знарадзьдзем разрахунку за Вэрсаль. Гэтым тлумачыцца незадаваленьне, якое выклікаў крок Нямеччыны сярод вялікіх капіталістычных дзяржаў, асабліва Францыі.

Нас пляны Гітлера цікавяць непасрэдна, бо Беларусі пляны гэтыя нясуць пачэсную ролю нямецкае калёніі. І гэта тым больш цікава, што сярод беларускага народу ёсьць здрадніцкія групы заможнікаў, палаючых ненавісьцю да Ўсходу, групы, якія лятуцяць аб тым, каб аб'яднаць Беларусь пад ботам нямецкага акупанта. Невыпадкова завыялі *беларускія хадэкі* ў хаўрусе з украінскімі фашыстамі і польскімі абшарнікамі-манархістамі аб „голадзе“ ў Саветах, аб „перасьледваньні“ беларусаў і украінцаў і аб чым толькі хочаце. Непрыпадкова іхныя саюзьнікі за ўсходняй мяжой сіліліся і сіляцца падняць гапаву, сабатажам і шкодніцтвам рыхтаваць сустрэчу чорнай згаі. Непрыпадкова |Клімовіч ад імя беларускай хадэяды сымпатычна расчыркнуўся ў Бэрне пад плянамі Гітлера.

Мы, наш рух — рух беларускіх народных гушчаў — адносімся варожа да ашалелага нямецкага нацыяналізму, які, выступаючы супроць вэрсальскага трактату, нясе сьвету новыя, ня менш несправядлівыя і драпежныя дагаворы коштам слабейшых. Да ўсіх гэтых дагавораў, якія *нашым коштам* заўсёды могуць зрабіць „сільныя сьвету“ мы адносімся з аднолькавай варожасьцю, а нашы сымпатыі і наша братэрскае падтрыманьне на баку тых, хто няўпынна разгортвае барацьбу супроць нямецкага фашызму, барацьбу, якая нясе *мір народам і вайну падпальшчыкам вайны*.

## Напярэдадні самаўрадавых выбараў.

Незадоўга маюць адбыцца выбары ў грамадзкія рады і перавыбары ў гмінныя самаўрады. У некатарых мясцовасьцях старосты пачалі ўжо адпаведна інструктаваць тых людзей, якія будуць праводзіць гэтыя перавыбары. Беларускае сялянства гатуецца да перавыбараў з свайго боку. Бязумоўна, стаім перад важнай і адказнай хвілінай. Перавыбары ў гмінныя самаўрады зьяўляюцца ня толькі добрым паказчыкам настрояў народных мас, але і падымаюць іх грамадзкую актыўнасьць на вышэйшую ступень.

У адным з папярэдніх нумароў нашае газэты мы падрабязна спыніліся над характэрнымі мамэнтамі новага самаўрадавага закону, паводле якога будуць адбывацца сёлетнія выбары. Найбольш важнае новае ў самаўрадавым законе зводзіцца да павялічэньня кантролю адміністрацыйнае ўлады над дзеяльнасьцю гміннае рады, і да ўзмацненьня польскага характару яе, вымаганьнем ад радных і солтысоў веданьня польскае мовы ў слове і пісьме*).

Выбарчыя правілы (ардынацыя), паводле новага закону звужвае правы выбаршчыкаў, павышаючы век тых, хто выбірае да 24 гадоў і тых каго выбіраюць — да 30; апрача таго выбарчая ардынацыя ўстанаўляе *яўнасьць* галасаваньня і толькі на жаданьне ⅕ часткі выбаршчыкаў прадбачвае магчымасьць галасаваньня *тайнага*; далей—кожны выбаршчык мае права галасаваць *толькі* на ¼ частку агульнай лічбы радных данай гміны. Усе гэта можа даць тым людзям, каторыя будуць кіраваць выбарамі, магчымасьць перашкаджаць правядзеньню ў самаўрады нялюбых ім кандытаў.

Як бачым, надыходзячыя самаўрадавыя выбары вымагаюць ад нас **ужо сёньня** распачаць падрыхтоўку да правядзеньня сваіх прадстаўнікоў—шчырых беларусоў.

**Ужо сёньня** трэба абгаварваць *каго выбіраць* і *як* пры новай выбарчай ардынацыі забясьпечыць правядзеньне сапраўдных прадстаўнікоў народу.

*К. Б.*

*) Распараджэньнем Мін. Унутр. Спраў з дня 17/X. 33 выкананьне гэтага пункту закону на нашых землях завешваецца на працяг 5 год.

## Што пішуць?

### Неўраджай.

Манархістычна-абшарніцкае „*Слова*“ зьмясьціла гутаркі з *паслом Вэндзягольскім* і з старшынёй Саюзу Абшарнікаў Віленшчыны *панам Барткевічам* на тэму сёлетняга ўраджаю. Вось выняткі гутаркі з паслом Вэндзягольскім:*)

— Якой пан пасол думкі аб сёлетнім ураджаі?

— Спачатку выглядала на добры ўраджай. Жыта выглядала на пні дасканальна. Але, бачыце, гэта толькі палавіна справы, другая палавіна —малатно. А з малатном—дрэнна. Яно не дае нават леташняй нормы. *Зярняці сёлета на 20—30 процантаў менш, як у мінулым годзе.*

З прычыны дажджоў пацярпела ня толькі колькасьць зярняці, але і яго якасьць. Зярня страціла ў сярэднім каля *50 проц. свае вартасьці*. Ад дажджоў вельмі пацярпелі таксама аўсы і ячмень. Найстарэйшыя людзі не памятаюць такога спозьненага жніва.

— А як выглядае ўраджай бульбы?

— Тут справа *зусім дрэнная*. Наогул бульба ўрадзіла слаба. Некаторыя гаспадаркі сабралі тое-сёе, але іншыя дык *не зьбяруць і насеньня*. Больш таго-ёсьць мясцовасьці, дзе бульба *зусім прапала*. У некаторых паветах гэта можа стаць прычынай няшчасьця, бо, як вядома, тут бульба ёсьць асноўным харчом.

Не хачу быць злосным прарокам, але, хіба, буду блізкім да праўды, калі скажу, што *некаторым паветам пагражае ў зімовыя месяцы голад*.

Абшарнік Барткевіч таксама лічыць, што „сёлета ўраджай горшы, чым у мінулым годзе і розьніца гэтая—залежна ад павету — хістаецца ў межах ад 30 да 50 проц.“, г. зн. *да палавіны*.

Але пан Барткевіч духам ня падае і лічыць, што. крыху ад неўраджаі падымаць ня варта:

„Мы (!) тут, бачыце, пане, прывыклі (!!) да цяжкіх варункаў—*гаворыць абшарнік*—я лічу, што трэба перадусім *прыстасавацца* да варункаў...“ Пасол Вэндзягольскі таксама такой думкі і, судзячы па яго словах, відно, што дзяржава ня думае прыйсьці з дапамогай, *бо „сама сёньня вельмі абцяжараная“*.

Сялянскія гушчы думаюць, аднак, напэўна інакш. Голад, калі навіной у нас не зьяўляецца, навучыў думаць значна глыбей. Па думцы сялянства асновай голаду ёсьць цяперашняя *ўбогасьць гаспадаркі, якую найменшае стыхійнае няшчасьце руйнуе дашчэнту.*

Мы высьвятлілі—паводле „Слова“ — справу ўраджаю на Віленшчыне. А калі такі стан рэчаў тут, дык што-ж гаварыць аб Палесьсі?

Голад зноў стаіць на парадку дня і на парадак дня трэба паставіць арганізацыю барацьбы з ім.

### Хадэцкія залёты да Гітлера.

Пасьля салідарнасьці з Гітлерам у яго замежнай палітыцы вайны, хадэкі засьпявалі пахвальныя гімны ўнутранай палітыцы нямецкага фашызму (ясна, свой свайго хваліць!).

„**Беларуская Крыніца**“ № 35 за 15 кастрычніка ў артыкуле „Паварот да зямлі“ распляўся ў захапленьні да земельнае палітыкі Гітлера. Душы беларускіх заможнікаў спадабалася тое, што Гітлер вызначыў высокія і цьвёрдыя цэны на прадукты *абшарнікаў*, каб набіць ім кішэні кошатам працоўных.

А стратэгічна-вайсковае *асадніцтва* ўва Усходняй Прусіі „Крыніца“ прадстаўляе сялянам, як... „справядлівае“ вырашэньне зьмельнага пытаньня. Гэтую „нямецкую спробу“ хадэкі прапануюць, як выхад з крызісу „землярабскім шляхам“.

Так выглядае ў сапраўднасьці хадэцкая „зямля бяз выкупу“.

*Вера М.*

*) усюды падкрэсьлена намі.

**10-ы нумар „Бел. Газэты“ выходзіць з значным спазьненьнем з прычыны матэр'яльных труднасьцяў нашае Рэдакцыі. Таму яшчэ раз зьвяртаемся да ўсіх, хто хоча, каб „Бел. Газ.“ прадаўжала сваё існаваньне, з заклікам**

**ШЛІЦЕ МАТЭР'ЯЛЬНУЮ ДАПАМОГУ!**

Рэдакцыя.

# Літэратурная Старонка-2

## Адгукнуліся!

У «Беларускай Газэце» № 7 быў зьмешчаны заклік да паэтаў і пісьменьнікаў, заклік да гуртаваньня вакол нашай газэты. Заклік свой мы скіравалі да паэтаў-самародкаў, раскіданых „нават па самых глухіх кутках нашае Заходняе Беларусі“, а таксама „да ўжо выяўленых і прызнаных беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, якія сваю творчасьць хочуць аддаць на служэньне вызваленчай справе нашага народу“. І ня гледзячы на тое, што столькі гадоў наш рух быў пазбаўлены свае газэты, тыя, да каго мы зьвярталіся з заклікам,—адгукнуліся хутчэй, чым можна было спадзявацца. Наша «Літэратурная Старонка“ № 2 зьмяшчае 30 імён сёньняшніх і заўтрашніх паэтаў і пісьменьнікаў, тых, што сталі на наш кліч, каб мастацкім словам змагацца за агульную справу. Верым, што наш літэратурны легіён усьцяж будзе папаўняцца новымі сіламі, расьці і крэпнуць!

Радасьць агортвае, калі глядзім на запісаныя «кульгавым» подчаркам старонкі, на каторых палажыла свой знак жыцьцё. Піша нам з іроніяй Пятрусь Граніт аб „Мужыцкай восені“, аб тым, як „з братвы мужыцкай, шэрай, бязьмежна кожны рад, што хлеба скромнай мерай мо‘ хапіць да каляд“. Другі малады паэт А, Рэдзька цешыцца, што „рух народны р‘вецца на раздольле і ў заўтра пракладае торны шлях“.

Побач з паэтамі-самародкамі, якія на нашых старонках ступаюць першыя крокі свае літэратурнае творчасьці,—адгукнуліся таксама паэты, якія на заходня-беларускім грунце ўжо здабылі „правы грамадзянства“. Адгукнуўся Зьвястун, падтрымаў нашыя пачынаньні Міхась Васілёк, ступаючы на сваім літэратурным шляху новы крок наперад і ідэалягічна і якасна.

Нарэшце прышоў да нас таксама Фр. Грышкевіч, колішні штандаровы літэрат сельсаюз-хадэцыі. Ен творча маўчаў апошнія пару гадоў, раздумваючы над шляхамі, каторымі йшоў дагэтуль. У выніку—сёньня заяўляе тым, з кім учора быў разам, што цяпер ён і яны — розныя, што ён з тымі, якія вышлі „разьдзіраць зьдзірванелы лад-зьдзек“. На гэтым месцы яшчэ раз зазначаем. што мы не адрэзваем шляхоў да нас тым, хто сёньня несьвядома ўцягнуты ў лягер ворагаў народнага руху, захоча, аднак, шчыра аддаць свае здольнасьці народнай справе.

Так ствараецца наш літэратурны фронт. Ен не адмежаваны кітайскім мурам ад іншых дзялянак нашага руху. Нашы паэты і пісьменьнікі вышлі з працоўных гушчаў, зьвязаны з імі цесна і неразлучна, а ў гэтым—зарука правільнасьці нашага шляху.

Мы не скажам, што зрываем „з шэрай прозай штодзённага жыцьця і ўвесь свой талент аддаем на службу самой красе“*), бо мы не прызнаем гэтай адарванай ад жыцьця і агульнай для ўсіх „красы“. Наш кліч—бліжэй да штодзённага жыцьця працоўных, глыбей у яго нетры. Наша краса — гэта ўсё тое, што верна і да канца служыць вызваленчым ідэалам.

*) „Нёман“ № 5, арт. Ст. Станкевіча „Аб бел. літ суч. у Зах. Бел.“

### *Прывітаньне.*

*Цябе вітаю, „Беларуская Газэта“,*
*і працы чэсьць тваёй я аддаю:*
*Ты самародных узгадоўваеш паэтаў,*
*Каб песьню сьмела грымнулі сваю.*
*Пашана й чэсьць тваёй вялікай працы!*
*Падумай толькі: ці-ж гадаў мой дзед,*
*Што унучак здолее прабрацца*
*На старонкі родныя газэт?!*

***Пятрусь Граніт.***

### Я песьню чуў.

(Пасьвячаю без пары памёршаму М. Явару).

Адзін удар, мамэнт і лепшыя імкненьні
Разьвеюцца, як лёгкі пар у вышыні лязурнай,
І краскі, што сыпнуў хтось у душу шчодрай жменяй, —
Завянуць, адцьвітуць маўкліва і пакорна...

Складаем на аўтар ўрачыстасьці юнацкай,
Усю жарсьць жыцьця, сьвятыя думкі сэрца—дар, вясьне прыгожай,
І што-ж: бязьлітаснай рукой няждана хтось зьнянацку,
Зрывае яркі цьвет расьцвіўшай пышна рожы...

Вясна, вясна, твой райскі гімн так поўніць шчасьцем нас,
У грудзёх распальвае агні жаданьняў нявыразных...
Пакінь, дарэмна ўсё... прамень надзеі згас —
У пакой жыцьця ўпаўзьлі зьмяёй сьмяротныя міазмы...

Я песьню чуу... пад гукі струн душы
Змагаўся хтось з жыцьцём бунтарны, непакорны;
І здаўся—змоўк... разьбіта ліра... у бязмоўнай ледзь цішы
Йшчэ плакалі пявучыя цудоўныя акорды...

*М. Васілёк.*

**Літэратура — гэта магутны дзейнік усьведамленьня, выхаваньня і арганізацыі мас!**

* * *

Зорка міргае сьлёзна у небе начным,
Цераз краты мігоча сваім пералівам;
Ціха шэпчацца цемра ў закуцьцю глухім,
Застывае густым квола-млеючым зьлівам.

Пасмы ценяў крылатых на сьцены ляглі,
Затаілі ў сабе ночнай цішы стагнаньне.
І таёмныя муры наўкол аплялі
Халодным і з мрочным, нямым хваляваньнем.

У паветры заснула вастрожная песьня,
Толькі сонныя шэпты павісьлі няздарна;
І, здаецца, нат· гукам тут душна і цесна
Сярод гэтых задумана-мёртвых лятарняў.

Разам з ноччу ўварваліся думак прылівы,
Міражамі ўсьцілаючы сьцежкі свае:
Вочы бачаць палі, дзе хвалююцца нівы,
Дзе з вякоў непрагляднае гора снуе.

Ціха шепчуцца цені, сьпіць панура вастрог,
Толькі зорка сьлязіцца адна...
Я — хоць змрок тут нямы навакола залёг —
Буду думкі снаваць аж да дня.

І заціснуцца рукі заўзята і туга,
Палкі ўзрок кіне выклік ў вастрожную ноч.
Думак ход перапутае нейкая зьлюга,
А ў грудзёх заклякоча скаваная моц!

*Зьвястун.*

## Акорд адвечнай песьні.

Год 1918. На Беларусі — нямецкі акупант.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяжкія хмары дыханьнем сьмерці абдаюць пахаладзеўшую зямлю. Халодныя кроплі барабаняць у брудныя шыбы. Вецер пасьвіствае жудасныя напевы восені. — Абгалеўшыя галіны каштанаў клешчамі касьцятрупа цягнуцца да закратаваных вокнаў, як-бы хочучы вырваць з іх заіржавелае жалеза.

За дзьвярыма раздаўся рэзкі сьвісток.

Салодкі сон сьвітаньня, як спужаная птушка, зьляцеў з чорных векаў. Ен раскрыў вочы, сінія, як васількі роднага поля. Глянуў у вакно і пабачыў неба ў квадратах.

Кіпучая хэўра сьветлых думак з краіны сонных лятуценьняў вярнулася ў каменнае пудла камеры.

Скокам маладога тыгра схапіўся з ложка. Па целу прабеглі дрыжыкі. Моцныя грудзі глыталі халоднае паветра. Сталёвым рухам галавы адкінуў з сініх вачэй кучаравае прадно густых валасоў.

Пачынаўся дзень аднастайнага жыцьця, дзень, які катлаваў аднымі і тымі самымі думкамі, што блукаюцца ў зачараваным коле навакол аднаго паняцьця—вольнасьці. Моцнымі крокамі зьмерыў сваю камеру.

— Свабода...

Слова, якое гучэла найпрыгажэйшаю музыкай у яго вушох, пранікала праз каменныя сьцены, вырывалася за краты і цяслося гучнаю хваляй ува ўсе куткі яго старонкі.

Падыйшоў да вакна і пабачыў сьвет у квадратах. Мускулярнымі рукамі схапіўся за краты. Сталёвымі пальцамі сьціснуў халоднае жалеза.

— Свабода — скрыгануў ён, мацуючы мокрыя краты. Хацеў гэтым словам разбудзіць тых, хто драмаў у сьмяротным летаргу, але яно глухім рэхам разьбілася аб краты.

Пачуў сваю самотнасьць. Белы лоб упаў на жалеза. Закрыў васільковыя вочы. Думка сокалам паляцела пад страху роднае хаты. Бачыў матку. Бальзамам погляду аблівала рану сэрца, што задала варожая рука. Добра яму. Любоў сына сьпявае песьню. Слухае, хапае яе акорды.

— Трах, трах—раздаецца сярод піано фэрмата песьні. Уздрыгнуў. Страсануў гарачай галавой. На лобе адціснуты крывавы крыж—сымбаль цярпеньняў магутных. У камеры зазьвінела сталь. Бліскучыя кольцы абвілі моцныя рукі.

Выйшаў за дзьверы. Вецер шугануў каля вушэй. Пачуў:—Свабода...

* * *

Цень няведамага суму лёг на мармуровы лоб. Іскрыстым ўзрокам прабягае па натоўпе салі. Імгла зялёнага сукна закрывае вочы. Час-ад-часу ўстрасае кучарарай галавой. Шукае знаёмую сыльвэтку. Пабачыў матку. Пачуў яе стогн:

— Сынок мой...

Словы, як раскаленае жалеза праніклі ў самае нутро. Ірвануўся. На руках зазьвінела сталь. Як рэха рассыпаўся на салі голас званка. За зялёны стол селі чорныя сыльвэткі. Зашуршэла папера. Хрыпавы голас ціскаў пытаньні ў бок падсуднае лавы:

Імя? Прозьвішча? Колькі гадоў? Ралігія?...

Не чакаючы адказу судзьдзя сам чытаў належнае ў акце абвінавачаньня, а ён кідаў кароткае:

— Так.

— Ці прызнаешся да віны? — кінуў урэшце паклоньнік справядлівасьці.

— Я і мой народ вінаваты ў тым, што мы хочам жыць! — адказаў ён горда, падняўшы галаву.

— Пытаньне датычыць аднае асобы, — пачуў той самы голас.

— Мяне ўзялі з радоў народу, — зазьвінеў адказ.

Чорныя пачалі шаптацца, а ён чакаў.

Згарнуўшы з сукна паперы, пад шорах скалыхнуўшаеся аўдыторыі, выйшлі на нараду.

Уздыхнуў, як пасьля цяжкай працы. Пачаў ізноў шукаць сярод натоўпу маткі. Пабачыў ціхія сьлёзы. Заціснуў пабялеўшыя вусны. Сэрца выбівала няроўный такты. Стогн маткі адбіўся аб вушы стогнам мільёнаў.

Стараўся думкай разгарнуць заслону недалёкай будучыні. Кожная мысьль чаплялася за гэтую загадку. Зблуканымі вачыма на зялёным сукне шукаў ея разьвязкі.

* * *

Выстраіўшыся ў рад, тры асобы прыгатовіліся да аднагалоснага трыо. Сярэдні пачаў чытаць прысуд. Словы дзікаю хэўрай ляцелі каля вушэй. Слух чакаў апошняга слова, усё іншае было пустым трэскам хрыплага голасу. Моцнаю паставаю нахіліўся ўперад. Скамянелым узрокам упіўся ў паперу надрукаванага прыгавору. Думка не магла злавіць сэнсу чытанага, аж пакуль слова — Расстраляць — электрычнай іскрай не прабіла здаровага цела. Сінія вочы закрыла халодная імгла восені.

Крык дзікага страху вырваўся з сухіх грудзей маткі. У адказ на яго пачуўся гранітны раскат слоў сына:

— Ня першы я і не апошні...

— Маўчаць. — пачуў над самым вухам.

* * *

Сонца купаецца ў золаце васеньніх лістоў. Цёплыні касулямі цалуе вялую зямлю. Апошнімі ўздыхамі сакрэтны зэфір цягне ў прасторы серабрыстыя ніткі павучыньня. Неба сьмяецца бясхмарным блакітам. Цёпла, весела, прыгожа... Радасьць пералітая сумам вісіць у прасторы. Хочацца жыць, цешыцца залатам восені, прыслухоўвацца да рэха летняй песьні заміраючай у бясхмарнай вышыні...

Белая заслона закрывае вочы. Халодная рука вядзе яго да апошняе прыстані. Бязвольнымі рухамі перастаўляе алавяныя ногі. Панура сьвішча вецер хаўтурную песьню.

— Раз. Два. Тры... — лічыць хвіліны свайго жыцьця. Пабег думкамі у праласьць. І здалося яму, што ён — маленькі хлопчык, перажывае ўсё на нова: вясна... сонца... май,..

Хочацца яму затрымацца сярод гэтае яснасьці, што з усіх бакоў аблівае яго сваею цяплынёй, але ўсё з надлюдзкаю сілай, з казачнаю хуткасьцю, ляціць, нясецца ўперад, да... цяглянага муру, які чуецца ўжо недалёка. Тут канец...

Цемра гушчэйшая, чым цемра завязаных вачэй.

І ён апошнімі высілкамі волі, сабраўшы ўсю сілу мускулаў свае істоты, як-бы зьбіраючыся вывернуць зямлю з яе адвечнае каляіны, крыкнуў:

— Няхай жыве...

Раз, два — плі.

Трэск выстралаў перарваў апошняе слова. Выцягнуўшыся на ўвесь рост і зьняўшыся на пальцы, падкошаны гарачымі кулямі, зваліўся на зямлю.

Сінія вочы шклянымі яблыкамі глядзелі ў блакіт халоднага неба восені, дзе заміраў акорд адвечнай песьні...

*Рытма*

* * *

*Я веру — сілы маладыя,*
*Сьцяну з граніту — гмах бяздольля —*
*Праб'юць! З душы агні жывыя*
*Красу распаляць ў творчым полі.*

*Прыдзе мамэнт — чакаць нямнога —*
*На мейсцы зьнесеных палацаў*
*Рукой мозольнай без зьнямогі,*
*Аўтар збудуем творчай працы!*

*Гразяць хай лемэнтам кананьня*
*Лёкаі чорнага Ваалу...*
*Што боль жыцьця у параўнаньні*
*З сьвітаньнем зоркі ідэалу!?*

***М. Васілёк.***

## Мужыцкая восень.

З палёў даўно сабралі
Збажыну мужыкі,
І па вясковых далях
Цяпер грымяць такі.

З братвы мужыцкай, шэрай
Бязьмежна кожны рад,
Што хлеба скромнай мерай
Мо' хопіць да каляд.

Праходзяць дні бяз мовы
І толькі вецер дзьме,
Сустрэчны гімн суровай
Складаючы зіме.

Далёка ў небным полі
Крык жураўлёў замоўк.
А над мужыцкай доляй
Завые сёньня воўк.

*Пятрусь Граніт.*

## Ня лічыце!

Ня лічыце на дні і на месяцы,
Дзе й калі маем волю спаткаць:
У грудзёх нашых воля выкрэсіцца,
З іскраў трэба агонь разьдзьмухаць.
Як брылянтнік, што днямі і ночамі
Рые землю мазольнай рукой,
І вачыма дрыжача ахвочымі
Кожну грудку абсочыць ў разкрой.
Кожна грудка ёсьць тайнаю скрытаю,
Кожна грудка трывожыць і гне;
Гне тугою з надзеяй спавітаю,
Гне брылянтніка косьці к зямле.
Хто з вас выйшаў, каб чынам і моваю
Разьдзіраць зьдзірванелы лад-зьдзек;
Хто з вас выйшаў з рыдлёўкай сталёваю
Рыць углыбы для заўтрашніх рэк...
Будзьце стойка-бадзёрымі, цьвёрдымі,
Цьвёрдасьць—сьветлага заўтра залог!
Будзьце сьмелымі, вернымі, гордымі,
Каб вас вораг манокю ня змог.
Ваша стойкасьць праломіць дарогі,
Ваша сьмеласьць падыме усіх,
Ваша гордасьць паставіць на ногі
Занямогшых, прыбітых, слабых...

9. VIII. 1932 г. *Фр. Грышкевіч.*

## Беларусь.

Старонку знаю я, ад краю дзе да краю
Прырода заліла красой зямлю; —
Я роднай гэтую старонку адчуваю,
Ад сэрца шчырага шаную і люблю.

Старонку знаю я, дзе векавой няволяй
Насільна скованы жыцьця размах,
Дзе рух народны рвецца на раздольле
І ў заўтра пракладае торны шлях.

Люблю цябе, вялікі край цярпеньня,
І барацьбой тваёй, як сын, гарджусь!
Я веру, што праб'е гадзіна вызваленьня,
Што вольнай будзеш ты, Старонка-Беларусь!

*А. Рэдзька.*

# Гутарым:

**Зьвястун.** Шчыра вітаем Ваш водклік. Атрымалі ўсё. Вершы наагул добрыя, але друкаваць сапраўды ня ведалі што. Прычыны, хіба, зразумелыя. Верш, які друкуем, не зьяўляецца найлепшым сярод прысланага. Выбачце таксама, што крыху „падшліфававалі". Чакаем ад Вас новых твораў. Трымайма цесную сувязь.

**Янка Чабор.** Атрымалі. Дзякуем. Пастараемся выкарыстаць. Жадаем пасьпеху ў творчасьці. Глыбей, *глыбей* бярыце! Чакаем.

**Міхась Васілёк.** Ваш грамоздкі ліст атрымалі. Вельмі рады Вашым бадзёрым настроям. Гэта—аснова здаровае творчасьці. Труднасьці-ж існуюць на тое, каб іх перамагаць. Наконта Вашага пытаньня ці мы запрасілі паэтаў, прыхільных бел. сан., адказваем: не, і ня думаем запрашваць, бо вакол нашай „Літ. Ст." гуртуюцца песьняры працы і барацьбы, а ня здрады. Агаварваемся, што не адрэзваем шляхоў *некаторым* з іх, якія шчыра і на справе захочуць стаць на плятформу барацьбы. Рэшта ў лісьце. Вітаньне!

**Улацкі.** Вашае апавяданьне „Развага Рыгора ў шэрую гадзіну" пры магчымасьці пастараемся выкарыстаць. З апавяданьня відно, што пісаць Вы можаце. Мова ў Вас жывая і пераплятаецца з цёплым, здаровым гумарам. Заклікаем пісаць апавяданьні і моцна працаваць над сабой, чытаючы асабліва Тараса Гушчу. Чакаем новых твораў.

**В. Канцавы.** Вершы атрымалі. Выкарыстаем.

**Фр. Грышкевіч.** „Мы—розныя" можа пайсьці пры ўнясеньні пэўных карэктываў. Гэта трэба зрабіць Вам самаму. Чакаем паважнейшых рэчаў, як і таго, каб Вы больш выразна заявілі аб сваіх адносінах да тых, з кім Вы цяпер — *розныя*. Верш „Ня лічыце" — ідзе.

**А. Рэдзька.** У гэтай „Літ. Ст." зьмяшчаем адзін з Вашых вершаў. Зьвярнеце ўвагу на папраўкі. Наагул—пісаць радзім. Моцна працуйце над *якасьцю* верша. Пішыце таксама на больш канкрэтныя тэмы. Зусім ня пішыце такіх антыграмадзкіх вершаў, як „Пытаньне". Гэта прыклад няправільнага падыходу да творчасьці, тым больш, калі паэт хоча быць „карысным для агульнай справы". Прышлеце вершы, аб якіх гаворыце ў лісьце.

**Міхась Ліст.** З верша оскарыстаем. Пішыце.

**Пятрусь Граніт.** У нас ужо сабралася ладная куча Вашых вершаў і таму можам зрабіць пэўныя вывады і парады для Вас. Нават самы беглы агляд вершаў дае магчымасьць сьцьвердзіць, што Вы над імі *зусім* не працуеце і печаце іх проста, як блінцы. Гэта — шкодны навык і яго трэба перамагаць, калі хочаце стаць на ўласныя ногі ў літэратурным сэнсе. Зразумейце, што верш — гэта ня толькі набор слоў, у якіх рыфмуюцца канцоўкі »настала" і „адабрала", „сьнег" і „стрэх". Верш — гэта стройная *сугучнасьць* вобразаў і музыкальнасьці, гэта *адзінства зьместу* і формы. Узяць, напр., Ваш верш „Жыцьцё нашае вёскі"— гэта-ж толькі вершаваная (і то кепска) карэспандэнцыя. Толькі тое, чаго нельга выказаць у карэспандэнцыі, выказвайце ў спэцыфічнай (своеасаблівай) стыхіі верша. Прыгледзьцеся да верша сябры Зьвястуна „Зорка міргае сьлёзна": таго, што сказана ў ім, напэўна ў карэспандэнцыі ня выкажаце. У гэтым асаблівасьць *паэзіі*. Паэзія ня любіць страшэнна размазанасьці.

**К. С.** Вершы даволі жывыя, толькі пішыце на іншыя тэмы, не аб'мяжоўваючыся восеньню і зоркамі. З прысланага пастараемся скарыстаць.

**Н. Жальба.** З вершаў пастараемся скарыстаць. Пішучы далей, старайцеся прыняць пад увагу ўсё тое, што мы радзім іншым.

**Алесь Нядоля.** Прысланых вершаў ня зьмесьцім, але працаваць у гэтым кірунку радзім. Прышліце іншыя вершы, мо' тое-сёе выбярэм.

**У. Т.** Лісты атрымалі. З усяго прысланага відаць, што ў Вас да пісаньня рука, як гаворыцца, набіта. У вершах ёсьць прыгожыя мясьцінкі, але гэты ўзровень ня вытрымліваецца на працягу ўсяго верша і псуецца зрывамі. Але ёсьць усе даныя, што Вам гэтыя зрывы ня будзе цяжка перамагчы. Вашы вершы церпяць яшчэ на хваробу, знаную пад іменем *агульшчыны*. Прыкладам — верш „Наперад", які, аднак, мае заканчэньне нядрэннае:

„Да сонца з цямноты лагчынаў
Парві, захапі за сабою ўсіх,
Агнём і уздымам імкненьняў сваіх,
Запальнасьцю *словаў і чынаў!*".

Каб слова было *дзейным*, яно павінна быць *канкрэтным*. У вершы бярыце меншы ахоп зьяваў, каб больш *глыбока* іх перадаць у мастацкіх вобразах. З прысланага скарыстаем. Пішыце. Прывет!

**А. Л—скі.** Ня выкарыстаем, але пісаць варта. Радзім спрабаваць свае сілы ў прозе.

**П. Сошка.** Вершы „Беларусь! Беларусь!"; і „Чаму сьпіш?"—маем. Па магчымасьці выкарыстаем. Нельга, аднак, абмяжавацца голымі заклікамі і бачыць толькі сон мужыка. Гэта няслушна. Стаўце да сябе большыя вымогі. Працуйце. Чаму ня пішаце карэспандэнцыяў?

**Васіль Струмень.** З вялікай ахвотай залічаем Вас карэспандэнтам „Бел. Газ." Для гэтага якраз вялікай адукацыі ня трэба. Даволі мець вочы і працоўнае чуцьцё, каб бачыць, што вакол робіцца ды ўмець выбраць і ацаніць пэўны факт. Ад вершаў устрымайцеся. Навучыўшыся пісаць добрыя карэспандэнцыі, Вы гэтым самым здабудзеце правільны падыход да рэчаў, Радзім таксама ўзяцца за прозу і спрабаваць свае сілы ў пісаньні апавяданьняў з сялянскага жыцьця.

**Квялюк.** Вы нас завальваеце вершамі, з якіх многія проста перапісаны Вамі з розных беларускіх часопісаў і календароў. Калі Вы будзеце над сабою так „працаваць", — паэтам ня станеце ніколі. Пішыце лепш карэспандэнцыі. Пасьля пабачым.

**У-р Шчыры.** Вашых, як Вы кажаце, „рамансікаў" зьмяшчаць ня будзем. Чытаючы іх, можна падумаць, што ў Зах. Бел. апрача мяшчанскага каханьня нічога больш няма. Калі маеце вершы на іншыя тэмы — прышлеце, бо адчуваецца, што пісаць можаце.

**Герасім Прамень.** Маем пакуль што сказаць Вам наступнае: Вы пачынаеце пісаць, хочаце быць паэтам. Гэта нядрэнна, але памятайце, што добраму пісьменьніку ў першую чаргу патрэбна цьвёрдай ідэалёгіі і лініі. Вы пішаце ў „Родны Край", „Бел. Крыніцу" і да нас. Скажыце: няўжо Вы ня бачыце розьніцы між гэтымі газэтамі? Калі Вы сапраўды шчыра хочаце змагацца за справу белар. прац. народу — станьце цьвёрда на наш шлях. Тады будзем гутарыць далей.

**В. Лебедзь, С. Шаўка, Я. Асот, М. Белянец, М. Качка.** — Усім, Вам, сябры, трэба пачаць ад карэспандэнцыяў, ведаючы, што ня можа быць пісьменьнікам той, хто ня ўмее пісаць добрых карэспандэнцыяў. Карэспандэнцыі няхай будуць Вашым першым крокам на літ. шляху. Памятайце, што, каб выйсьці на гэты шлях, трэба многа ўпартай працы над сабой. Дык, да працы, сябры!

**М. Гаварок.** Вершы нішто. Патрабуюць апрацоўкі. Пакідаем іх у архіве.

**Андрэй качка.** Не надрукуем. Слабая.

**П. Алекса.** У вершы ёсьць прыгожыя думкі і форма ў некаторых мяйсцох добрая. Як цэласьць аднак — слабы. Пішыце выразьней.

**Аўтару „Пад белымі крыжамі".** Вітаем Пойдзе ў наступным нумары. Чакаем на далейшыя „пробы".

**„Літэратурная Старонка" — гэта цаглінка ў гмах літэратуры працоўных Зах. Бел. Сябры! Шчыльней рады навокал „Літ. Ст."!**

## Шосты паход.

У папярэдніх нумарох нашае газэты мы ўжо пісалі аб далёка-ўсходняй сытуацыі, аб тым, што там нарастаюць глыбокія канфлікты паміж паасобнымі дзяржавамі, а передусім паміж СССР і Японіяй, каторая нядвузначна выказала свае тэндэнцыі да збройнага захопу ўсходніх зямель Сав. Саюзу. Мы ўжо пісалі аб тым, што ўступам да выкананьня гэтых плянаў зьяўляецца захоп японскімі імпэрыялістамі паўночных кітайскіх зямель— Манджурыі і Джэголю, — што кітайскае прадажнае генеральства Гоміндану сталася памочнікам японскай ваеншчыны ў прыгнечаньні мільёнаў кітайскага народу. Але побач з гэтым *унутры* кітайскай тэрыторыі адбываюцца ня менш важныя падзеі. Кітайскія народныя масы вядуць бязупынную барацьбу супроць прадажніцкага ўраду Чанг-Кай-Шэка, супроць японскай акупацыі, супроць сацыяльнага вызыску і нацыянальнага ўціску. Вынікам гэтай барацьбы зьяўляецца ўтварэньне на аднэй шостай кітайскай тэрыторыі Саветаў, на варце якіх стаіць шматтысячная чырвоная армія.

У аднэй з францускіх газэт „Lu" знаходзім жменю даных аб савецкім Кітаі і аб сіле яго арміі.

Чырвоная армія Савецкага Кітаю пераможна адбіла ўжо пяць вялікіх паходаў Гоміндану. А паходы гэтыя былі ня толькі справай рук кітайскіх генэралаў. Ім нясьлі вайсковую і матэрыяльную дапамогу вялікія капіталістычныя дзяржавы: Японія, Англія, Амэрыка, Італія. Іх ваенная флёта знаходзіцца у портах Чанг-ча і Ханжоў, яны гэнэральскім войскам дастаўлялі зброю і амуніцыю, яны пасылалі сваіх афіцэраў. Але ня гледзячы на ўсё гэта, ня гледзячы на значную колькасную і тэхнічную перавагу войскаў Чанг Кай-Шэнка — чырвоная армія, апіраючыся на падтрыманьне кітайскіх народных мас змагла адбіць гэтыя атакі, прылучаючы да сябе ўсё новыя і новыя правінцыі.

Сяньня Чанг-Кай-Шэк арганізуе ўжо *шосты паход* супроць савецкага Кітаю, мабілізуючы 450-тысячную армію. Гэты новы паход розьніцца ад усіх папярэдніх тым, што ў ім прыймаюць удзел *амаль усе імпэрыялістычныя дзяржавы*. Гэнэральскія войскі застасавалі новы спосаб дзеяньня, які палягае на сыстэматычным і паступовым захопе савецкіх правінцыяў, каб, зьнішчаючы цывільнае насельніцтва і акружаючы савецкія краіны — усё больш і больш агранічваць магчымасьць манэўраваньня чырвонай арміі—змусіць яе прыняць бой з незраўнана большай сілай ворага і, памагчымасьці, здушыць. Гэта —з другога боку — мае не дапусьцьці да пераходу арміі Гоміндану на бок чырвонай арміі.

Аднак, *першая бітва шостага паходу прынясла перамогу чырвонай арміі над арміяй Чанг-Кай-Шэка.*

Газэты падаюць, што шосты паход арганізаваў, падгатаваў і ім кіруе генерал фон Зэкт, б. шэф нямецкай арміі (Рэйхвэры), той фон Зэкт, каторы ў 1923 годзе ў крыві затапіў паўстаньне нямецкага пролетарыяту і каторага так сквапна падтрымлівалі нямецкія социял-дэмакраты.

*А. Б.*

